**У НУМАРЫ**




# Ніва


**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (816) ГОД XVI БЕЛАСТОК 17 КАСТРЫЧНІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.




## 10 гайнаўскіх год КАСТУСЯ ЛЯШЧЫНСКАГА

Гайнаўцы — г о р а д у 20 год. Правы горада атрымала Гайнаўка ў 1951 годзе. Дзесяць год з гэтых дваццаці горада старшынёй гарадской рады нарадовай тут Кастусь Ляшчынскі. Дзесяць год прайшло ад часу, як у 1961 быў выбраны ён першы раз старшынёй ГРН. Цяпер старшынствуе ўжо трэці раз. Людзі гавораць: трапіў чалавек на сваё месца. А Кастусь Ляшчынскі, мо нават занадта коштам асабістага жыцця, уласнага часу, аддаецца працы. Праца гэтая служыць людзям.

Я не хачу расхвальваць гайнаўскага старшыню, але як журналіст павінна дакладна запісаць факт, што хваліць яго Гайнаўка — людзі — яго выбаршчыкі. І другі факт, што гайнаўскія ініцыятывы і работа ГРН добра сведчыць пра старшыню. Я як журналіст стараюся толькі запісваць хроніку маіх часоў і яго герояў. Кастусь Ляшчынскі — сын Гайнаўскай зямлі. Выйшаў з народа і застаўся з ім. Нельга мне не сказаць, што розныя высокія асобы ў ваяводстве хацелі забраць Кастуся «вышэй», у ваяводства. Але ён застаўся, не згадзіўся. Праўда, здольныя людзі патрэбны не толькі ў Беластоку і Варшаве, але і ў Гайнаўцы. І перш за ўсё ў Гайнаўцы, якая мае вялікую сілу прыцягвання сваіх выхадцаў, якая бурліва развіваецца ў прамысловы цэнтр, якая становіцца значным культурным цэнтрам, якую якраз і Ляшчынскі хоча зрабіць цікавым турыстычным цэнтрам і якая, урэшце, вабіць людзей пахам елак і грыбоў.

Праўда, многа ў маладым горадзе яшчэ трэба зрабіць, але, як заўважыў гайнаўскі рабочы, «і многа зроблена».

З нагоды падвойнага юбілею — 20-ці год горада і 10-ці гайнаўскіх год яго старшыні скажам пару слоў пра горад. Размова такая з Кастусём Ляшчынскім пачалася вось як: я запытала пра гісторыю 10-цігадовай працы Ляшчынскага, толькі яго самога. А ён ў адказ занекаў: «Не-не-не. Я вам скажу: сіла, сапраўды, не ў адным чалавеку. Ад па-

Працяг на стар. 4



*Жыхары Гарадка і Міхалова пазайздросцілі славе тэлевізійных турніраў гарадоў і, не чакаючы, пакуль тэлевізія зацікавіцца гэтымі мясцінамі, пастанавілі арганізаваць у сябе падобны турнір. Прайшоў ён не горш, чым на сярэбраным экране, але аб гэтым раскажа наш фотарэпартаж на стар. 3.*




## БГКТ ХРОНІКА

■ Аплочванне членскіх складчын сведчыць аб тым, як даны чалавек звязаны са сваёю арганізацыяй, як да яе адносіцца і як яе шануе. А вось як выглядае аплочванне членскіх складчын у паасобных аддзелах БГКТ да 1 кастрычніка. Гайнаўскі аддзел у касу Галоўнага праўлення уплаціў 10 тыс. зл., Сямяціцкі — 2290 зл., Варшаўскі — 1700 зл., Беластоцкі (гарадскі) — 1410 зл. Найгорш з гэтай справай у Бельскім аддзеле. За тры кварталы 1971 года аплаціла там складчыны толькі 10,3% членаў. Такім чынам, неабходна ў чацвертым квартале бягучага года праўленням аддзелаў, асабліва Бельскаму аддзелу, добра паклапаціцца аб тым, каб усе члены БГКТ да 31 снежня выканалі свой элементарны абавязак.

■ Выконваючая абавязкі старшыні рэвізійнай камісіі ГП Лідзія Бялецкая пры ўдзеле мясцовага члена рэвізійнай камісіі Паўла Дзекайлы 1 кастрычніка правяла кантроль дзейнасці варшаўскага аддзела БГКТ.

■ 4-га кастрычніка пад старшынствам Мікалая Гайдука адбылося пасяджэнне прэзідыума бельскага аддзела БГКТ. Арганізацыйнае забеспячэнне справаздачна - выбарчай кампаніі ў гуртках БГКТ і напрамкі дзейнасці аддзела ў культурна-асветным годзе 1971/72 прадставіла сакратар праўлення Вераніка Леанюк. Аб гэтым гаварыў таксама сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. Затым прэзідыум прыняў план працы да канца 1971 года, пастанавіў на дзень 17-га кастрычніка склікаць пленум аддзела і арганізаваў камітэт на чале з Антанінай Кунай, які займаецца арганізацыяй конкурсу на беларускую песню - 72 і аглядам драматычных калектываў. Прэзідыум праўлення пастанавіў запрапанаваць пленарнаму пасяджэнню персанальныя змены ў складзе прэзідыума: 1) Адклікаць з прэзідыума асобы, якія выехалі з Бельшчыны. З'яўляюцца імі: Мікалай Гайдук, Аляксандр Хшаноўскі і Янка Войцік. 2) Увесці ў склад прэзідыума: Аляксея Карпюка — дырэктара Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя, Міколу Зіневіча — кіраўніка цэнтра прапаганды павятовага камітэта ПАРП, Сцяпана Трафімюка — падінспектара аддзела асветы ПРН і Юрку Левацюка — старшыню павятовага праўлення ЗМВ. (мх)

## ЗЬХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ




Цяжка паверыць, што ў нас на Беласточчыне,- а дакладней у Гайнаўскім павеце, можна атрымаць з аднаго гектара 50 цэнтнераў пшаніцы. У нас 25 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, дык гэта ўжо нядрэнна. У дырэктывах партыі на VI з'езд гаворыцца, што «ўраджай збожжа ў 1975 годзе павінен агулам дасягнуць 24—25 цэнтнераў з аднаго гектара». Значыць, гэта рэкорд. Значыць, можам падвоіць ураджай зернавых, значыць можам дабіцца таго, каб наша краіна не прывозіла з-за граніцы мільёны тон збожжа і каб не плаціла за яго велізарныя сумы грошай. Трэба толькі моцна хацець гэтага і прыкласці шмат намаганняў. На прыкладзе Пятра Тыханюка з Чыжоў, што на Гайнаўшчыне, мы раскажам вам. чытачы, як гэта зрабіць.

Перш за ўсё павінна быць добра выраблена глеба. А насенне — гэта залаты фонд ураджаю. Пётр Тыханюк, пры дапамозе першага сакратара павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Аляксея Лазоўскага, атрымаў з Кольненскага павета 20 кг нямецкага гатунку пшаніцы пад назвай «Пілот». Меў ён таксама высакаякаснае насенне і з цэнтралі насеннай. Дык пасеяў гэтыя два гатункі пшаніцы на двух кусках, якіх разам было 2 га.

— Гэтай пшаніцы, — сцвярджае Пётр Тыханюк, — трэба высяваць 220—240 кг на адзін гектар. (Нашай звыклай пшаніцы сеюць 160—180 кг на 1 га). Але добрае насенне без добрага мінеральнага ўгнаення высокіх ураджаяў не дасць.

І таму Пётр Тыханюк (адзін кусок быў пасеяны на бульбянішчы) на 1 га даў 5 цэнтнераў суперфасфату і 2 1/2—3 цэнтнеры солі патасовай 40%. А вясною па гэтай пшаніцы пасеяў па 2 цэнтнеры «салетры амановай». І так разам атрымалася 270 кг NPK на 1 га пасеву.

Пшаніца расла дасканала. Даглядаў, проста песціў яе Пётр Тыханюк. Калі дзе заводзілася пустазелле, хутка яго вырываў. Расла пшаніца густая, каласістая, нізкарослая. У кожным коласе было ад 38 да 50 буйных зярнят. Хто з гаспадароў праходзіў або праязджаў, не мог не затрымацца, каб ёю не па-

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ШТО АДБЫВАЕЦЦА З ДОЛАРАМ

У 1970—1971 г.г. Злучаныя Штаты сутыкнуліся з сур'ёзнымі эканамічнымі цяжкасцямі: крызіс у вытворчасці, мацнейшая інфляцыя аслабілі іх пазіцыі ў свеце капіталізму і садзейнічалі далейшаму значнаму абясцэньванню долара.

Агрэсіўная вайна ў Індакітаі, велізарныя ваенныя расходы прывялі да рэкордных паказчыкаў дэфіцыту плацежнага балансу ЗША. У 1971 годзе ён склаў каля 10 мільярдаў долараў, а ў 1971 годзе толькі за першае паўгоддзе — каля 11 мільярдаў.

У выніку такога велізарнага дэфіцыту пачаўся сапраўдны даларовы патоп — перапаўненне валютных каналаў Заходняй Еўропы і Японіі амерыканскай грашовай адзінкай.

Цяпер за межамі ЗША знаходзіцца не менш 50 мільярдаў долараў. Фармальна яны ўсе маглі быць прад'яўлены да абмену на золата праз цэнтральныя банкі адпаведных краін, аднак залатыя запасы ЗША складаюць толькі пятую частку гэтай сумы. Гэта ператварае ў фікцыю магчымасць абмену долара на золата.

Аб'яўляючы аб спыненні размену долараў на золата, Ніксан адначасова спрабуе, выратоўваючы долар, забіць двух зайцаў: па-першае, перашкодзіць доступу на амерыканскі рынак заходнееўрапейскіх і японскіх тавараў і тым самым нанесці ўдар гандлёвым партнёрам; па-другое, аслабіць інфляцыйныя працэсы за кошт працоўных ЗША шляхам «замарожвання» зарплаты.

### ГОСЦІ СЛАВАКІІ

Першы сакратар ЦК Кампартыі Славакіі Й. Ленарт прыняў дэлегацыю прэзідыума Акадэміі навук Беларускай ССР, на чале з яе прэзідэнтам М. Барысевічам. У сяброўскай гутарцы Й. Ленарт расказаў госцям аб эканамічным, палітычным і культурным развіцці Славакіі за апошнія гады і перспектывах яе развіцця на аснове далейшага навуковага і тэхнічнага прагрэсу.

### РАДЫ ГКП

Прыкладна на 1.000 чалавек павялічылася колькасць членаў арганізацыі Германскай камуністычнай партыі ў адным з буйнейшых прамысловых раёнаў ФРГ — зямлі Паўночны Рэйн — Вестфалія. Цяпер яна перавышае 12 тыс. чалавек. У 1971 годзе новыя арганізацыі ГКП створаны на шэрагу буйнейшых прадпрыемстваў.

### НОВЫ СТАРШЫНЯ ХДС

На нядаўнім з'ездзе ХДС быў выбраны новы старшыня гэтай партыі Р. Барцэль. Ён зменіць на гэтай пасадзе былога старшыню ХДС і былога канцлера федэратыўнага ўрада Кізінгера.

### СТАРШЫНЁЙ...

...прэзідэнцкага савета Федэрацыі Арабскіх Рэспублік выбраны прэзідэнт Арабскай Рэспублікі Егіпет Анвар Садат.

Выбары старшыні адбыліся на першым пасяджэнні прэзідэнцкага савета ФАР у складзе прэзідэнта А. Садата, прэзідэнта Сірыі Х. Асада і старшыні Рэвалюцыйнага савета Лівіі М. Кадафі.

(АК)



## БССР

### НА СЛАВУ ГЕРОЯМ

Аб гераічнай абароне Брэсцкай крэпасці чырвонаармейцамі ў чэрвені 1941 года мы ўжо пісалі неаднойчы. Руіны брэсцкай цытадэлі даўно былі ператвораны ў Музей славы. Цяпер пабудаваны тут велічны мемарыяльны комплекс. Гэта велізарная мастацка-архітэктурная кампазіцыя, якая патрасае і хвалюе кожнага гледача. У аснову скульптурных збудаванняў пакладзены сапраўдныя факты і эпізоды гераічнай абароны. Аднак у мастацкім адлюстраванні, у мастацкай сімволіцы і метафарах набралі яны глыбейшай, магутнейшай сілы. Цэлы гэты гістарычна-мемарыяльны комплекс быў адкрыты 25 верасня 1971 года. У сувязі з гэтым адбылася ў Брэсце вялікая ўрачыстасць, у якой прынялі ўдзел перажываўшыя пекла вайны абаронцы цытадэлі, родныя і блізкія загінуўшых, кіраўнікі Кампартыі і ўрада Беларусі.

### ПРАДАЕЦЦА Ў «НАТАШЫ»

Варшаўскі гандлёвы магазін «Наташа», які прадае рознага роду сувеніры, выкананыя ў Савецкім Саюзе, заўсёды запоўнены кліентамі. Нядаўна дырэктар Казімеж Навакоўскі ад імя гандлёвага аб'яднання па абароце ювелірнымі таварамі і сувенірамі склаў заказ у рэспубліканскай канторы «Белгалантарэя» Беларускай ССР на пастаўку для магазіна «Наташа» звыш 100 рознага роду вырабаў. Будуць гэта лялькі з саломы і льнянага валакна, «Паўлінкі», вытачаныя з дрэва, па-мастацку аформленыя шкатулкі і шмат іншых прыгожых і каштоўных вырабаў, якія выходзяць з рук беларускіх умельцаў. З Беларусі ў Польшчу будуць таксама дастаўлены прадметы хатняга ўжытку, кандытарскія вырабы, валены абутак, фотаапараты «Чайка» і некаторыя іншыя вырабы. Беларускія пакупнікі ў сваю чаргу змогуць атрымаць у сваіх магазінах польскую мэблю, скураную і тэкстыльную галантарэю, галаўныя ўборы і спартыўныя тавары.

### АШЧАДНЫЯ ЛЮДЗІ

Кастрычнік адзначаецца ў Польшчы як месяц ашчаднасці. Дык варта ведаць, што беларусы — таксама ашчадныя людзі. У БССР налічваецца 3119 ашчадных кас, у якіх свае грошы пераходуваюць 2 мільёны 599 тысяч грамадзян. Склалі яны аж 1 мільярд 627 мільёнаў 300 тысяч рублёў. На аднаго ўкладальніка ў ашчадную касу прыпадае ў сярэднім па 614 рублёў. Ашчаднасці грамадзян БССР растуць шпарка. На працягу толькі мінулай пяцігодкі яны павялічыліся амаль у тры разы, а ў вясковым асяроддзі нават у 3,7 раза. Гэтыя лікі паказваюць найбольш яскрава, як паляпшаецца дабрабыт беларускага народа.

### ЮБІЛЕЙ ЧЫРВОНАКРЫЖЦАЎ

Споўнілася 50 год дзейнасці Таварыства Чырвонага Крыжа Беларусі. Гэтая гуманітарная арганізацыя шмат чым заслужылася ў папулярызацыі санітарнай культуры і ў нясенні дапамогі ўсім, хто яе калі-колеч патрабаваў.



## ПОЛЬШЧА

### УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ

У Зборску (Калішскі павет) адбылося ўрачыстае адкрыццё культурна-асветнага года. Ва ўрачыстасці прымалі ўдзел член Палітбюро, сакратар Цэнтральнага камітэта ПАРП Юзэф Тэйхма, віцэ-прэм'ер Вінцэнты Краська, сакратар Галоўнага камітэта ЗСЛ Зыгмунт Суровец, член прэзідыума Цэнтральнага камітэта СД Яўгенія Красоўская, І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Познані Юры Засада і іншыя.

З нагоды ўрачыстага адкрыцця новага культурна-асветнага года аддадзены ў карыстанне грамадскі культурна-асветны цэнтр у Зборску, дом творчай працы ў Калачкове (Вжэсненскі павет), музей Марыі Дамброўскай у Русове (Калішскі павет) і іншыя.

### ТВОРЧАЯ НАРАДА

5 кастрычніка адбылося пасяджэнне прэзідыума Польскай акадэміі навук, якому старшынстваваў праф. Януш Грашкоўскі. Прэзідыум ПАН звярнуўся да ўсіх сваіх членаў, навуковых супрацоўнікаў, да навуковых цэнтраў і камітэтаў з заклікам да актыўнага ўключэння ў рэалізацыю працы грамадскім чынам для адзначэння VI з'езда партыі. Важнай справай з'яўляецца прыспяшэнне доследаў над вырашэннем важных праблем, хутчэйшае выкананне якіх мае велізарнае значэнне для правільнага і ўсебаковага развіцця гаспадаркі і народнай культуры. Члены прэзідыума ПАН дыскутавалі над праблемамі навуковай палітыкі і задачамі навукі ў развіцці гаспадаркі, асветы і народнай культуры. Разглядалася таксама справаздача камісіі па справах навуковых кадраў у цэнтрах ПАН, у вышэйшых школах і навукова-даследчых установах.

На заканчэнне пасяджэння была прынята пастанова аб утварэнні ў Лодзі цэнтра малекулярных і макрамалекулярных даследванняў ПАН.

### ІНВЕСТЫЦЫІ

4 кастрычніка ў будынку Цэнтральнага камітэта ПАРП адбылася нарада, прысвечаная праблемам інвестыцый. Яе арганізатар — эканамічны аддзел ЦК — склікаў на нараду найлепшых спецыялістаў у гэтай галіне, кіраўнікоў і дырэктараў некаторых прамысловых аб'яднанняў і прадстаўнікоў камісіі планавання з той мэтай, каб даць поўны адказ на пытанне: якія перашкоды найбольш уздзейнічаюць на прадоўжванне інвестыцыйнага цыклу і якім чынам можна паспяхова і хутка скараціць гэты цыкл. Прапановы з гэтай нарады будуць разгледжаны Палітычным бюро ЦК партыі.

### «ЧЭХАВІЦЫ»

Ужо закончыўся першы этап адбудовы нафтаперагоннага завода ў Чэхавіцах. Як усім вядома, у гэтым годзе выбух тут вялікі пажар. Нядаўна аддадзены ў эксплуатацыю галоўны калектар. Цяпер «Чэхавіцы» перарабляюць такую колькасць нафты, якую перараблялі перад катастрофай.

(яц)



## ВАЯВОДСТВА

### СЕСІЯ ВРН

7 кастрычніка адбылася чарговая сесія Ваяводскай рады нарадовай. Галоўнай тэмай пасяджэння былі праблемы сельскагаспадарчай адукацыі для вясковай моладзі. Сесію адкрыў старшыня прэзідыума ВРН С. Жмійка. Апрача прадстаўнікоў сельскагаспадарчых устаноў, на сесію былі запрошаны дзеячы маладзёжных арганізацый. Удзельнічалі ў працы сесіі віцэ-старшыня ГП ЗМВ Е. Гжыбчак, сакратар ГП ЗМВ Ст. Крушнеўскі, а таксама дырэктар дэпартамента сельскагаспадарчай асветы міністэрства сельскай гаспадаркі К. Рацлаўскі.

Як паказаў у сваім дакладзе намеснік старшыні прэзідыума ВРН Ул. Міхалюк, заданні нашай сельскай гаспадаркі на бліжэйшыя 5 гадоў вельмі вялікія. Плануецца ўзрост глабальнай прадукцыі на 29%. Вялікая роля ў гэтым адводзіцца моладзі. Таму сельскагаспадарчая адукацыя моладзі стала важнай патрэбай грамадства.

Сесія прыняла таксама пастанову аб новым адміністрацыйным падзеле ваяводства.

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМАВАЙ КАМІСІІ

На днях у Беластоку адбылося пасяджэнне сеймавай камісіі камунікацыі, прысвечанае справам гаспадаркі на лакальных дарогах нашага ваяводства. Нягледзячы на пэўныя дасягненні, у дыскусіі крытычна быў ацэнены існуючы стан камунікацыі ў нашым ваяводстве: спалучэнне паміж грамадамі існуе толькі ў 60%, вельмі позна прызнаюцца грошы на падтрымку працы грамадскім чынам і шэраг іншых заўваг.

У час пабыўкі ў нашым ваяводстве паслы наведалі Беластоцкі і Лапскі паветы.

### ПАЧАТАК КУЛЬТУРНАГА ГОДА

У мінулую суботу адбылося ўрачыстае адкрыццё пачатку новага культурнага года на Беласточчыне. Гэтая ўрачыстасць сёлета адбылася ў Сямяцічах. Сямяціцкі павет у мінулыя гады адзначыўся шэрагам цікавых мерапрыемстваў і актыўнасцю сваіх жыхароў. На ўрачыстым адкрыцці прысутнічалі сакратар ВК Ул. Юшкевіч, намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, кіраўнік аддзела культуры прэзідыума ВРН З. Дамброўскі і інш.

Многія дзеячы культуры атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Пасля спаткання актывісты культуры, падзяліўшыся на некалькі груп, наведалі шэраг пляцовак культуры Сямяціцкага павета.

### ПЛЕНУМ АП ЗБоВіД

Нядаўна адбыўся пленум акругавага праўлення ЗБоВіД. На пленуме была ацэнена справаздачна-выбарная кампанія, а таксама былі вызначаны напрамкі далейшай дзейнасці. Асаблівая ўвага была звернута на актыўнасць членаў ЗБоВіД у перадз'ездаўскай дыскусіі. Падкрэслівалася неабходнасць працы ў двух напрамках — унутры арганізацыі і ў рамах Фронту адзінства народу.

(яч)




**Niedziela 17.X.**

7.45. Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja pasz i organizacja żywienia w gospodarstwie" cz. II. 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TV Klub Śmiałych. 9.55 „Szczęśliwy książę" — film rum. balet. 10.25 Sprawa nie tylko rodzinna" — rep. sportowy. 11.00 „Alaska" cz. I — rep. („W cztery świata strony"). 11.30 „Melodie i tańce Uzbekistanu" — program folklorystyczny. 11.45 Dziennik. 12.00 Sprawozdanie z II połowy meczów piłki nożnej o mistrzostwo I ligi: „ŁKS (Łódź) — „Szombierki" (Bytom), „Stal" (Mielec) — „Górnik" (Zabrze). 13.50 „Przemiany". 14.20 Dla dzieci: „Przygody skrzata Dzięcielinka". 15.00 „Wielka Warszawska" — reportaż tv z wyścigów konnych na Służewcu w Warszawie. 15.45 TV Spotkania Teatralne: H. Boguszewska — „Całe życie Sabiny". 17.00 „Stefan Żeromski — życie i twórczość" — teleturniej. 18.00 PKF. 18.20 „Stefan Rachoń zaprasza" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Siedem szczęśliwych dni" — film fab. wł. 21.25 Magazyn sportowy. 21.55 Studio Współczesne: T. Różewicz — „Tolerancja".

**Poniedziałek 18.X.**

15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Nara i Kioto" — film dok. jap. 18.30 „Sam wśród ptaków" — film pol. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: L. Leonow — „Profesor Skutarewski". 21.35 „Pracownie, galerie, ulice" — rep. film. 22.05 „Dobry wieczór z Valdemarem" — program rozr. TV Czechosł. 22.40 Dziennik.

**Wtorek 19.X.**

8.45 „Powszednie dni" — film fab. NRD cz. III. 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — St. Wyspiański „Wesele". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Mieszanki w żywieniu zwierząt". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Program filmowy. 17.10 „Oferty". 17.25 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Powszednie dni" — film fab. NRD cz. III. 21.10 „Refleksje". 21.40 „Latająca piłka" — program rozr. jap. 22.10 Dziennik.

**Środa 20.X.**

10.00 „Stracone złudzenia" — film franc. odc. VI. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Igrzyska olimpijskie". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Przyrządy optyczne". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Ropa naftowa". 13.40 „Wybieramy zawód". 14.40 Program dnia. 14.45 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej w ramach rozgrywek o Puchar UEFA: Zagłębie (Wałbrzych) — UT Arad (Rumunia). W przerwie meczu: PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów „Klub Kluczników", „Galeria na medal", „Zrób to sam". 17.30 „Z czym do Fiata". 18.00 „Rośliny żyją" cz. II (Poznajmy przyrodę"). 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Cztery brygady". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Stracone złudzenia" — film franc. odc. VI. 21.00 „Gwiazdy opery i baletu" — Maja Plisiecka i Galina Wiśniewska — program muzyczno-baletowy radz. 21.50 „Światowid". 22.20 Dziennik. 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy.. Matematyka.

**Czwartek 21.X.**

8.15 Matematyka w szkole: „Matematyka klasach matematyczno-fizycznych" cz. IV. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Fryderyk Chopin". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Poezja polska współczesna". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.45 Magazyn ITP. 18.00 „Portret Mirowa". 18.30 TV Kurier Lubelski. 18.45 „Przegląd muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.10 Teatr Kobra: G. Greene — „Ministerstwo strachu" cz. I. 21.40 „Polak pracuje". 22.10 Dziennik.

**Piątek 22.X.**

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Tanie źródła pasz w gospodarstwie". 8.35 „Entuzjaści" — film fab. węg. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Drobne naprawy w domu". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Ropa naftowa". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Fabryka na wsi". 12.45 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Przysposobienie obronne — „Budowle i pomieszczenia ochronne". 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 Wszechnica TV: „Nasi uczeni". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Ballady Jerzego Medyńskiego". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Nos" — film TVP. 20.30 „Kraj". 21.10 „Nie obrzucaj mnie błotem" — film fab. USA. 22.05 Dziennik.

**Sobota 23.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Pierwotniaki" 10.25 „Upalne południe" — film fab. bułg. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Krajobrazy USA". 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.15 Redakcja szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów". 17.45 „Na szlaku" — mag. turystyczny. 18.10 „Karnawał zwierząt" — baletowe impresje pantomimiczne bułg. 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Noc w Wenecji" — operetka. 21.50 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 22.10 „Słodkie igraszki minionego lata" — film fab. czechosł. 23.15 „Z moim udziałem" — progr. rozr. wł.




**Piątek, 15 października**

8.45 Film fab. 16.10 Koncert. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 W eterze „Młodość". 20.50 Mistrzostwa Europy w gimnastyce wśród kobiet.

**Sobota, 16 października**

11.30 Film fab. 12.45 W świecie zwierząt. 14.10 Poszukiwania. 15.00 Filmy animowane dla dzieci. 15.30 Dla wsi. 16.10 Koncert. 17.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce wśród kobiet. 19.15 Czas. 19.45 Film fab. 21.05 Sołowiow-Siedoj.

**Niedziela, 17 października**

8.00 Kiosk muzyczny. 9.00 Koncert. 11.45 Dla żołnierzy. 12.15 Uniwersytet ludowy. 13.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce wśród kobiet. 16.10 Klub filmowy. 17.00 Śpiewa A. Strelczenko. 17.30 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Spektakl TV. 20.15 Koncert.

# СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАЙ ССР з сацыялістычнымі краінамі

У. І. Ленін у 1913 годзе пісаў, што «старому свету, свету нацыянальнага прыгнёту, нацыянальнай грызні, або нацыянальнага адасаблення, рабочыя супрацьпастаўляюць новы свет адзінства працоўных усіх нацый, у якім няма месца ні для адной прывілегіі, ні для найменшага прыгнёту чалавека чалавекам». Гэтая ідэя правадыра рэвалюцыі і заснавальніка першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы лягла ў аснову створанага ў студзені 1949 года Савета эканамічнай узаемадапамогі. Аб'яднаныя ў ім на аснове поўнай дабравольнасці сацыялістычныя краіны — Балгарыя, Венгрыя, Германская Дэмакратычная Рэспубліка, Манголія, Польшча, Савецкі Саюз і Чэхаславакія — абменьваюцца гаспадарчым і тэхнічным вопытам, узаемна дапамагаюць сабе ў сыравіне, харчавых прадуктах, машынах, абсталяванні, узгадняюць гаспадарчыя планы і каардынацыю развіцця эканомікі сваіх дзяржаў на аснове рацыянальнага падзелу працы паміж сабой. Кожная дзяржава, што ўваходзіць у Савет эканамічнай узаемадапамогі (СЭУ), мае магчымасць спецыялізавацца ў развіцці тых галін індустрыі і ў вытворчасці тых відаў прадукцыі, для якіх мае найбольш спрыяльныя прыродныя і гаспадарчыя ўмовы. У выніку гэтага адбываецца значнае вызваленне сродкаў, якія накіроўваюцца на развіццё сельскай гаспадаркі і лёгкай прамысловасці, значыць, расшыраюцца магчымасці ўсебакова задаволіць матэрыяльныя і культурныя запатрабаванні нашых народаў.

Побач з іншымі рэспублікамі СССР у дзейнасці СЭУ важнае месца займае Савецкая Беларусь. Паказу ролі і месца БССР у Савеце эканамічнай узаемадапамогі прысвяцілі С. Д. Вайтовіч, М. С. Варабей і В. С. Талстой сваё супольнае даследаванне «Супрацоўніцтва Беларускай ССР з сацыялістычнымі краінамі»[1]).

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў. У першым з іх М. С. Варабей аналізуе сутнасць супрацоўніцтва сацыялістычных краін. Другі раздзел С. Д. Вайтовіч прысвячае паказу грамадска-палітычнага супрацоўніцтва і барацьбу за мір і міжнародную бяспеку, якую няспынна вядуць на міжнароднай арэне сацыялістычныя краіны. Пры гэтым аўтар адводзіць значнае месца ролі Беларускай ССР у працы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. В. С. Талстой у трэцім раздзеле кнігі разглядае эканамічнае супрацоўніцтва БССР з сацыялістычнымі дзяржавамі. У заключным — чацвертым раздзеле кнігі — М. С. Варабей паказвае супрацоўніцтва БССР з членамі СЭУ ў галіне асветы, навукі, літаратуры, мастацтва, друку, спорту і турыстыкі.

Нам, грамадзянам Польскай Народнай Рэспублікі, цікава ведаць, што Беларуская ССР з'яўляецца адным з важнейшых эканамічных раёнаў Савецкага Саюза. Як падкрэслівае В. С. Талстой, БССР «прадукуе трэцюю частку калійных угнаенняў, чацвёртую — ільнавалакна, дванаццатую — ільняных тканін у краіне (СССР — М. Г.). Кожны пяты трактар і матацыкл, восьмы металарэжучы станок, восьмая аўтаматычная лінія, чатырнаццаты радыёпрыёмнік і тэлевізар, семнаццатая грузавая аўтамашына, якія выпушчаны ў СССР, зроблены рукамі беларускіх працоўных».



Не менш важнае месца займае Савецкая Беларусь у экспарце за мяжу. Цяпер яна знаходзіцца на трэцім месцы ў СССР (пасля Расійскай СФСР і Украінскай ССР) па асартыменту тавараў, якія экспартуе за граніцу. У 1968 годзе каля 300 прамысловых прадпрыемстваў і арганізацый БССР займалася прадукцыяй на экспарт. Пры гэтым экспарт Беларусі ўзрастае з кожным годам не толькі па колькасці і разнастайнасці тавараў (ад 1958 па 1966 год ён павялічыўся ў 3,77 раза), але і расшыраецца (беларускія тавары цяпер экспартуюцца ў 80 краін свету). Савецкая Беларусь прадае за мяжу 90 тыпаў станкоў, трактары з Мінскага трактарнага завода, грузавыя машыны з мінскага, жодзінскага і магілёўскага аўтамабільных заводаў; розныя вырабы з металу, электратэхнічнае абсталяванне, вырабы хімічнай прамысловасці, матацыклы, веласіпеды, гадзіннікі, музычныя інструменты, лякарствы, вырабы з паперы, посуд і розныя спажывецкія тавары.

За атрыманую замежную валюту БССР прывозіць з-за мяжы розныя тавары, перш за ўсё станкі, машыны і камплектнае абсталяванне для спажывецкай, тэкстыльнай, хімічнай і іншых прамысловасцей, а таксама тавары агульнанароднага ўжытку.

Нас асабліва цікавіць развіццё замежнага гандлю паміж Польшчай і Савецкай Беларуссю. Перадаем слова В. С. Талстому:

«Знешнегандлёвыя фірмы Польшчы прадалі Беларусі камплектнае абсталяванне для завода штучнага валакна, для двух цукровых камбінатаў у Жабінцы і Слуцку, электралампавага завода ў Брэсце, абсталяванне і матэрыялы для пабудовы трэцяй чаргі Салігорскага калійнага камбіната. Беларусь купляе ў Польшчы пасажырскія і таварныя вагоны, а таксама некаторыя віды трансфарматараў.

Шырока вядомы ў БССР такія польскія тавары, як гатовая вопратка, скураны абутак, баваўняныя тканіны, мэбля, музычныя інструменты, лакі і фарбы, скураная галантарэя, парфумы, піва, вінна-водачныя вырабы і многія іншыя тавары.

Традыцыйнымі беларускімі экспартнымі таварамі, якія пастаўляюцца ў брацкую Польшчу, з'яўляюцца вырабы машынабудаўнічай, станкабудаўнічай і электратэхнічнай прамысловасці. Да іх належаць 27-тонныя аўтамабілі і магутныя цэнтрабежныя помпы. У Польскую Народную Рэспубліку кіруюць сваю прадукцыю Мінскі трактарны завод, Гомельскі завод сельскагаспадарчых машын, Гомельскі суднабудаўнічы і суднарэмонтны завод. На прадпрыемствах машынабудаўнічай прамысловасці Польшчы працуюць розныя віды станкоў беларускага вырабу.

Прадукцыя шэрагу прадпрыемстваў БССР выкарыстоўваецца для камплектавання машын, механізмаў і іншага прамысловага абсталявання ПНР (падшыпнікі, запускныя рухавікі, мантажны провад і іншыя). Мэблевая прамысловасць Польшчы атрымоўвае клееную фанеру (дыкту) і пліты са стружак, а прадпрыемствы тэкстыльнай прамысловасці — валакно ільну. Польскім пакупнікам добра вядомы багаты асартымент жаночых і мужчынскіх ручных гадзіннікаў мінскіх заводаў «Прамень».

Мы выбралі толькі невялічкую колькасць фактаў з гэтай грунтоўнай і абшырнай працы, але да яе будзем вяртацца часцей, бо кніга С. Д. Вайтовіча, М. С. Варабея і В. С. Талстога служыць добрай справе. Яна, паказваючы сучасную Савецкую Беларусь — краіну магутнай прамысловасці і інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі, — усебакова прадстаўляе ролю БССР ў Савеце эканамічнай узаемадапамогі і на міжнароднай арэне.

*Мікалай Гайдук*

[1]). С. Д. Войтович, Н. С. Воробей, В. С. Толстой, «Сотрудничество Белорусской ССР с социалистическими странами», Мінск 1970, стар. 214.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ДОБРАЯ ПАРАДА

Пішучы ў сваёй рубрыцы аб розных патравах, аб смачных і каларычных, аб штодзённых і святочных, мы хочам вас асцерагчы: смачнае ж хочацца есці і есці, а даводзілася чытаць нам пра хранічную ўдаву, якая выслала на той свет трох мужоў, якія да такой ступені любілі патравы, падрыхтаваныя сваёй жонкай, што не маглі стрымацца, а толькі елі, елі і елі, пакуль не памерлі.

Для тых, хто паспеў ужо занадта паправіцца, дзякуючы нашай рубрыцы, даем сёння параду: сачы за сваёй фігурай! Добрая, зграбная фігура (асабліва ў жанчын) раўняецца зачастую добраму самаадчуванню. Не раім худзець дзякуючы фармакалагічным сродкам: дапамагаючы на адну хваробу (бо ж нельга назваць чалавека занадта тоўстага здаровым), яны патрапяць увагнаць чалавека ў другую хваробу, яшчэ горшую, часта невылячальную. Напрыклад, лякарства, якое ліквідуе ў чалавека пачуццё голаду, у 1/3 выпадкаў становіцца прычынай бяссонніцы, робіць чалавека вельмі нярвовым, у яго можа пастаянна балець галава, моцна біцца сэрца, у вуснах будзе суха.

Амаль кожны, хто хоча пахудзець, робіць нейкія памылкі. Напрыклад, цяжка пахудзець таму, хто прабуе не снедаць. Прыблізна 8 чалавек на 10 хочучых пахудзець імкнецца «пераскочыць» нейкі пасілак. А гэта якраз не дае жаданых вынікаў. Бо калі тую ж самую колькасць яды падзяліць на тры часткі (замест на дзве) можна страціць больш вагі. Жывёлагадоўцы, напрыклад, адкормліваючы свіней, не дазваляюць ім есці часта. Корм даюць толькі два разы ў дзень. Такім чынам, калі мы ядзім радзей, тлушчавая тканка павялічвае сваю здольнасць збіраць тлушч.

Менш калорый «спальвае» арганізм і ў часе «галадоўкі». Арганізм «заўважае», што атрымлівае менш паліва і пачынае больш ашчадна гаспадарыць сваімі запасамі. Такім чынам, нават перыяд вострай «галадоўкі», пераплецены «моцнай» ад часу да часу ядой, не змяншае вагі, а наадварот, павялічваюць яе. А мышцы становяцца мяккія, арганізм траціць вітаміны і г.д.

Хто сапраўды хоча пахудзець, павінен станоўча змяшчаць сваю ежу ў граніцах 700—1000 калорый у дзень. Найважнейшае, каб набрацца цярплівасці на 1—2 тыдні, а тады ўжо перастане нас праследаваць пачуццё голаду. Тады ўжо можна будзе кантраляваць сваю вагу без клопатаў з залішнім апетытам.

У наступным нумары мы напішам вам, колькі калорый маюць паасобныя патравы, а сёння яшчэ толькі скажам, што хто хоча пахудзець, павінен есці шмат бялка, а мала цукру.

*Гаспадыня*




— Вось што старшы лейтэнант, — сказаў Сабко. — Мы сёння ж запытаем Вялікую зямлю і праверым увесь ваш расказ. Але вы не горш за мяне разумееце, што гэтага мала. Як бы мне ні хацелася верыць, я абавязан праверыць вас, як кажуць, крывёй... Зробім так. Вы ўладкуеце ў гаражы нашага чалавека. Аб размяшчэнні атрада будзе ведаць толькі ён. Уся сувязь — праз яго. Гэта — па-першае. Па-другое, мне вядома, што дзесьці ў раёне вёскі Нікалаеўкі ёсць склад прадуктаў харчавання і боепрыпасаў. Вы адвядзеце туды групу — з пяці вашых і дзесяці маіх байцоў. Задача — здабыць як мага больш боепрыпасаў, а склад узарваць.

— Усё зразумеў. Да Нікалаеўкі пяцьдзесят кіламетраў. Пра склад я таксама ведаю. Ні пра якіх партызан там не чулі, таму ахоўваецца склад даволі ненадзейна. Але ўсё ж я прапаную пераапрануць усю групу ў нямецкую форму — гэта я бяру на сябе — і прабрацца на тэрыторыю склада пад выглядам сапёрнай каманды, што прыбыла за атрыманнем узрыўчаткі. Дакументы я дастану. Астатняе — па абстаноўцы.

— Мацвеіч, хадзі сюды, — паклікаў камандзір. — Вось што, Мацвеіч, паедзеш з Крайсам. Ты, здаецца, да вайны слясарнічаў, так што справа знойдзецца. Крайс уладкуе ў гараж...

Потым адвёў барадача ўбок, расказаў, як сябе паводзіць і дзе будзе атрад.

— Глядзі, Мацвеіч, цяпер усё ў тваіх руках! Або атраду крышка, або...

— Не сумнявайцеся, таварыш камандзір. Усё зраблю па першае чысло. А гэтага немчыка, калі што якое, кокну...

— Усяго добрага, старшы лейтэнант. — працягнуў камандзір руку. — Вечарам чакаем. Дарогу пакажа Мацвеіч.

— Ёсць! — адчаканіў Крайс.

— Дазвольце ісці?

— Ідзіце.

...Як толькі машына скрылася, Сабко павёў атрад у іншае месца. К вечару неба зацягнула хмарамі, а па стэпе закружыліся перакаці-поле. Потым загрымела такая навальніца, што нават спрактыкаваным партызанам стала ніякавата.

І раптам у святле маланак вырас магутны нямецкі грузавік з зацягнутым брызентавым кузавам. З кабіны выскачыў Мацвеіч.

— Таварыш камандзір, — падбег ён да Сабко. — Машына гатовая. Нямецкая форма ў кузаве. Хто паедзе?..

— Зараз, хвіліначку... Дзе Крайс?

— У кабіне... Я ад яго ні на крок. Вы не сумнявайцеся, калі што, я яго...

Пакуль партызаны пераапраналіся і стрымана знаёміліся з людзьмі Крайса. камандзір падыйшоў да кабіны.

— Ого, выгляд у вас знатны! Ды і формачка сядзіць... прывычна.

Крайс крыху паморшчыўся і коратка адказаў:

— На сёння я — обер-лейтэнант Штубе. Вы едзеце?..

— А як бы вы хацелі?

— Справа ваша... Але калі хочаце ведаць маю думку — пакідаць атрад без камандзіра нельга!

«Вунь яно што, — падумаў Сабко. — Без мяне табе, вядома, лягчэй. Перахітрыць Мацвеіча — не праблема. Што ж, паглядзім, як ты ўправішся са мной!».

— Нічога страшнага, — сказаў Сабко. — У атрадзе застанецца камісар. А я паеду з вамі.

— Цудоўна. Надзявайце форму унтэрафіцэра...

Калі «сапёрная каманда» выстраілася каля машыны, Крайс прыдзірліва аглядзеў форму салдат і загадаў:

— У машыне не размаўляць. Руская мова можа ўсіх загубіць. З гэтага моманту вы нямецкія салдаты і павінны безагаворачна мне падпарадкоўвацца. На мае загады адказваць «Яволь, гер обер-лейтэнант!» і неадкладна іх выконваць. Хуткасць у нашай аперацыі вырашае ўсё... Цяпер патрэбны шафёр. Мне як афіцэру сядзець за рулём нельга. Хто ўмее вадзіць машыну — крок наперад!

Сабко выйшаў наперад і сказаў:

— Бадай, я спраўлюся... У маладосці даводзілася і шафёрыць...

— Адставіць! — крыкнуў Крайс. — Нямецкі салдат так не адказвае!

— Яволь, гер обер-лейтэнант! — выцягнуўся Сабко.

— Вось так... Сядайце за руль... Усім у машыну! — загадаў Крайс. — І помніце: ні слова па-руску! Стоп! А вы куды лезеце?.. Мацвеіч, назад! Я ж сказаў, што ў гэтай аперацыі вы — лішні!

— Як гэта лішні?! Ты, фрыц, гэту справу кінь! Я цябе на чыстую ваду выведу!..

— Загадайце яму замаўчаць, — павярнуўся Крайс да Сабко.

— А ў чым, уласна, справа?.. Чаму вы яго не бярэце?..

— Нямецкі салдат бараду не носіць. А ваш Мацвеіч пагаліць свае касмачы адмовіўся. Можа праваліць усю аперацыю.

« Ну і жу-у-к! — з захапленнем падумаў Сабко. — З такім не прападзеш!»

— Нічога не зробіш, — сказаў ён Мацвеічу. — Прыйдзецца застацца. Обер-лейтэнант мае рацыю...

